


Вучні чацвертага класа з гайнаўскай школы № 1 змятаюць сухое лісце з ходнікаў, наводзячы парадак на вуліцах горада.

Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 46 (1214) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 16.XI.1980 г.

**К. Аляксандрава**

# Казка пра мудрую Саву

У лясной пушчы, на палянцы, у лыкавай хатцы жылі чатыры браты: старэйшы, сярэдні, малодшы і наймалодшы. І вось аднойчы прыляцела ў той лес Сава — Вялікая Галава, разумная птушка. Усё было добра, але хутка Сава захварэла. Стогне на ўвесь лес, вохкае. Пачуў старэйшы брат і прыбег да дупла.

— Совушка, — кажа, — што з табою?

А Сава ў адказ:

— Захварэла я, няма каму мне вады прынесці.

Не паспела Сава сказаць, як старэйшы брат узяў вядзерка, збегаў да крыніцы і прынёс вады.

Потым сярэдні брат прыйшоў.

— Што з табою, Совушка? — пытаецца.

А Сава ў адказ:

— Ой, бедная я, хворая, а няма каму мне пасуду памыць.

Сярэдні брат прынёс з дому міску, наліў у яе вады, памыў усю пасуду.

А тут і малодшы брат падаспеў.

— Совушка, што з табою здарылася?

А Сава яму ў адказ:

— Ой, горлачка маё баліць, няма каму мне настойкі з травы зрабіць, каб горлачка паласкаць.

Малодшы брат распаліў вогнішча, загатаваў вады, назбіраў травы-муравы і зрабіў настойкі для паласкання.

Падзякавала Сава братам, а тут і наймалодшы брат прыбег.

— Чаго ты, Сава, стогнеш на ўвесь лес? — пытаецца.

А Сава яму ў адказ:

— Няма каму падлогі замесці.

Наймалодшы брат пачухаў патыліцу і кажа:

— Ты лепш старэйшага брата папрасі, а мне самому галава баліць, паляжаць прыдалося б.

Вечарам Сава паклікала братоў у госці. Старэйшаму брату яна падарыла драўляны гадзіннік, сярэдняму — ягады, малодшаму — бочачку мёду. А наймалодшаму, гультаю, нічога не дала.

Сеў гультай пад дрэва і горка заплакаў. Не ведаў ён, мабыць, што той, хто дабра людзям не робіць, не павінен чакаць дабра ад іншых.





**С. Грыцэнка**

## ФУТБАЛІСТЫ

На дварэ гулялі
Хлопчыкі ў футбол.
Разагнаўся Петрык
І ўдарыў — „гол!“
У акно чужое
Мяч аж зашумеў.
Сцішыліся хлопцы,
Петрык анямеў...
Крочыць дзед Кірыла
У руках з мячом.
— Чый жа гэта мячык?!
Хлопчыкі — маўчок!
— Што з акном? — Андрэйка
Шэпча сам не свой.
Дзед Кірыла: — Цэла!
— Цэла? Значыць, мой!..

**Пераклад з украінскай мовы**
**В. Маеўскага**

**Станіслаў Шушкевіч**

## АГАРОДНІНА СПЯВАЕ

*На паліцу ў магазіне*
*Села дыня-гаспадыня.*
*Побач, нібы карапуз,*
*Аблакоціўся гарбуз.*
*Крыху ніжай, на стале,*
*Лёг кавун і абамлеў.*
*Мо ў яго тэмпература?*
*Счырванеў, палае скура.*
*Агуркі залезлі ў таз.*
*— Во куды загналі вас! —*
*Кажуць важна памідоры,*
*У кашах, у калідоры.*
*А у скрынях ля сцяны,*
*Як падушкі, качаны*
*Беласнежнае капусты.*
*Іх паклалі густа, густа.*
*Буракі ў глыбокіх ночвах*
*Закрычалі цёмнай ноччу:*
*— Паважаныя сябры,*
*Будзем пець, як песняры,*
*Бо ад суму мы загінем*
*У бязлюдным магазіне.*
*Агародніна спявае.*
*Што пяюць? Не кожны знае.*
*Аж дрыжаць у складзе бочкі.*
*Тэнаркамі агурочкі*
*Заспявалі дружна хорам:*
*— Прададуць нас, пэўна, скора...*
*А гарбуз дык гэтым часам*
*Дапамог хрыпатым басам:*
*— Як гучней спяваць мы будзем,*
*Мо загадчыцу разбудзім.*
*Будзем пець,*
*дык не загінем, —*
*Як салістка, цягне дыня.*
*Ажно сцены ледзь трываюць —*
*Агародніна спявае.*



**Т. Хадкевіч**

# КАНЕЦ РАЗЛАДУ

Іх так і звалі: аднаго — Мішка Доўгі, другога — Мішка Кароткі. Яны былі аднагодкі, вучыліся ў адной школе, у паралельных шостых класах і не сказаць, каб вельмі адрозніваліся ростам. Адзін быў проста хударлявы з твару і постаці, даўганогі, другі — круглагаловы, каржакаваты і таму, здавалася, ніжэйшы за першага. Аднак мянушкі замацаваліся за імі цвёрда, бо ў хлапчукоў двух двароў, пра якіх тут пойдзе размова, не было звычкі называць адзін аднаго па прозвішчы.

Замацаваліся мянушкі яшчэ і таму, што абодва былі завадатары хлапчуковых гульняў і забаў, кожны ў сваім двары. А яно зразумела: калі яны Мішкі ды яшчэ такія прыкметныя, як жа абысціся без мянушак!

Двары ж гэтыя, даволі ўпарадкаваныя — з кучаравымі дрэўцамі, стракатымі кветнікамі і пасыпанымі пяском дарожкамі — падзяляліся прагалам, на якім тырчалі непрыбраныя з вайны руіны муроў не то царквы, не то якой іншай будыніны.

Для хлапчукоў рэшткі муроў былі сапраўднай знаходкай. От дзе можна было разысціся-разгуляцца ўволю! Колькі там пакручастых хадоў і выхадаў, колькі цёмных і цесных закуткаў, розных выступаў, грудкоў і ямін! Дарма, што ўсё гэта знаёма да драбніц, безліч разоў пройдзена і агледжана. Варта ў сваім уяўленні ахутаць руіны таямнічасцю, як яны здадуцца бясконцымі лабірынтамі, у якіх хавацца зручна і шукаць цікава. Прагнага ж да таямнічасці ўяўлення хлапчукам не пазычаць у каго-небудзь.

Спярша, як Мішка Доўгі і Мішка Кароткі ўзначалілі свае каманды, яны жылі ў міры і дружбе. Ніхто не лічыў, што гэта „наш“ двор, а гэта „ваш“. I з-за футбольнага мяча, калі ён залятаў з двара ў двор, ніколі не сварыліся. I руіны былі агульным месцам, дзе гулялася ў падпольшчыкаў і партызан, калі ўсе хацелі быць героямі і ніхто — гітлераўцамі. I абодва Мішкі часта заходзілі адзін да аднаго дадому па справе і без справы. А беручы прыклад са сваіх завадатараў, ладзілі і дружылі між сабой і іх сябрукі.

Але праз нейкі час адносіны паміж імі пачалі псавацца. Ніхто, уласна кажучы, і не заўважыў яскравай прычыны гэтага. Ці то можа хто сказаў другому непрыемнае слова, ці то хто іншы нагаварыў лішняга, толькі Мішкі раптам перасталі размаўляць адзін з адным. Праз некалькі дзён прыбег з таго двара падапечны Мішкі Доўгага малы Янук і, ледзь не румзаючы, паскардзіўся:

— Прагналі мяне адтуль... Гэны Мішка Карантыш сказаў, каб мы ў іх двор не паказваліся. Суне, кажа, хто нос, па носе і атрымае...

— Ах так?! — узлаваўся Мішка Доўгі. Выглядаў ён ваяўніча: чалавек шэсць яго сябрукоў глядзелі на яго, як на камандзіра, затаіўшы дыханне, а ён загадаў: — У той двор без майго ведама не хадзіць і ў наш нікога з іх не пускаць!

Дзяўчатак гэта не датычыць, іх у спрэчку ўцягваць не будзем.

З таго часу сябрукі Мішкі Доўгага сталі зваць хлапчукоў з таго двара „карантышамі“, а тыя гэтых — „даўгалыгімі“, хоць, па праўдзе сказаць, ніякай розніцы паміж імі не было. І тыя і другія былі звычайныя хлапчукі — і большыя, і меншыя, худзенькія і поўныя, але трэба было неяк падтрымліваць невядома як узнікшую непрыязнасць.

Руіны ператварыліся ў гэткую нейтральную паласу, куды і заходзіць было не вельмі бяспечна. Хадзілі туды з абодвух бакоў перш за ўсё разведчыкі падглядзець, што робіцца „ў стане непрыяцеля“. Да агульных боек справа не даходзіла, але іншы раз там, у руінах, вечарамі чулася падазроная валтузня, сапенне, часам — прыглушаны енк. Потым нехта свістаў, яму адгукаўся другі; кожны свістаў па-свойму, з каленцамі, і тады з муроў, як мышаняты са шчылін, выскаквалі ў абодва двары хлапчукі.



Дарослыя, праходзячы міма, не звярталі ўвагі на хлапчукоў. Гуляе дзетвара? Няхай гуляе. Тым больш ні з аднаго, ні з другога боку скаргаў не было чуваць. Навошта ж умешвацца ў дзіцячыя забавы!

— А з-за чаго мы ваюем? — паставіў аднойчы перад Мішкам Доўгім мудрагелістае пытанне пяцікласнік Вовік.

Вовік быў блізарукі, насіў акуляры ў рагавой аправе, вельмі даражыў імі і не надта кідаўся ў пошукі прыгод у мурах.

Мішка збянтэжыўся на момант — такога ён не чакаў нават ад Вовіка, але хуценька спахапіўся, крутануў галавой і як адрэзаў:

— Ніякіх пытанняў! Не разважаць, і каб дарослым ні слова аб нашых справах! Дысцыпліна — разумееш?

Вовік паціснуў плячыма і замаўчаў.

Мішку Доўгаму падабалася напружанасць у адносінах паміж дварамі. Па-першае, была магчымасць праявіць сябе, паказаць, на што ён здатны як камандзір, ды і прыемна было адчуваць, што табе падпарадкоўваюцца. Па-другое, ніяк не хацелася першым пачынаць „мірныя перагаворы“, няхай такі крок зробіць Мішка Кароткі, ён жа першы падзяліў двары на „наш“ і „ваш“. Тут ужо справа гонару. А ў Мішкі Кароткага гонару і ўпартасці таксама хапала: не падаеш рукі, не падам і я.

Патрэбен быў нейкі выпадак, каб яны сутыкнуліся твар у твар не з благімі, а з добрымі намерамі. Такі выпадак, ды яшчэ далёка не звычайны, неўзабаве падвярнуўся.

**Працяг у наступным нумары**



# ПАГЛЫБЛЯЙ



# СВАЕ ВЕДЫ



## ЗІМОВАЯ СПЯЧКА

З кожным днём пусцее асенні лес. Усё менш і менш відаць насякомых, знікаюць жабы, яшчаркі, змеі. Вечарамі не відаць лятучых мышэй. Перасунуліся на поўдзень чароды птушак.

Выпаў снег, і лес быццам заснуў.

Зіма нясе з сабою холад і голад. Адны жывёлы не маюць чаго есці, іншым — холадна, трэцім — і холадна і галадна. І большасць стварэнняў стараецца ўцячы да зімы або ўладкавацца так, каб ператрываць цяжкі час.

Птушкі адлятаюць на поўдзень. Застаюцца толькі тыя, што ўмеюць знайсці сабе харч у заснежаным лесе.

Звяры не могуць уцячы ад зімы. Тыя, што не могуць знайсці сабе ежы зімой у лесе, ратуюцца спячкай. Некаторыя звяры спяць усю зіму.

Жабам, змеям, яшчаркам, зімой не толькі няма чаго есці. Яны — халаднакроўныя жывёліны, у іх няма пастаяннай тэмпературы цела. Цёпла вакол — і жаба ці яшчарка нагрэецца. Пахаладала — і яшчарка робіцца нерухомай, штыўнее. Няхай вакол былі б горы ежы, але калі холадна, ні жабка, ні яшчарка не змогуць есці.

Толькі звяры і птушкі захоўваюць сталую тэмпературу цела. Ці ў мароз, ці ў гарачыню тэмпература іх цела аднолькавая.

Прасцей за ўсё схавацца на зіму насякомым, павучкам і іншым казяўкам. Шчыліна ў кары, апаўшае лісце, мох, кожная ямінка ў зямлі — усё прыдатна для зімовай кватэры мухі, вусеня, павучка. Пайдзіце ў зімовы лес, знайдзіце пень з адстаючай карой і загляніце пад яе. Вы знойдзеце там цэлую калекцыю насякомых. Калі будзе гэта ў час адлігі, — яны будуць варушыцца. У марозны дзень яны будуць нерухомыя, а часам нават пакрытыя інеем. Пакладзіце на далонь жучка, і праз некалькі хвілін ён заварушыцца, папаўзе. Адагрэўся. Насякомае можа ахаладзіцца нават да нуля градусаў. І яму гэта не шкодзіць.

Зімовая спячка звяроў і звяркоў выклікана не холадам, а голадам. Зімой няма насякомых — чым можа жыць лятучая мыш? Няма ежы зімой і для вожыка, для барсука. Няма чым пражыць зімой і мядзведзю. Прычына ва ўсіх аднолькавая — голад. Але спяць звяры па-рознаму. Сапраўдная спячка бывае не ва ўсіх. Напрыклад, мядзведзь у заапарку зімой зусім не спіць — ён сыты. У бярлогу мядзведзя гоніць голад.

Не спіць непрабудным сном і барсук. У час адлігі ён часам нават вылазіць з нары і гуляе па снезе.

Вожык спіць пяць-шэсць месяцаў. З восені ён рыхтуе сабе месца для зімовай спячкі: нацягвае ў ямку пад пнём ці кустом сухога лісця, травы, імху. У зімовай спячцы вожык ледзь дыхае, узяты ў рукі, абуджаецца не адразу.

**Паводле Плавільшчыкава**

## Дзіцячая дыпламатыя

Я люблю пагутарыць з дзецьмі. І заўсёды мяне здзіўляе іх дыпламатыя, іх логіка. Я заўсёды чытаю ў „Зорцы" „Вясёлы куточак", і рагачу з дзіцячае дасціпнасці. А ёсць і такія словы, якіх і дарослы не выдумае. Напрыклад, калісьці адно дзіця сказала, што надта любіць часнок, бо ён пахне каўбасою. Часнок і сам, вядома, — добрая рэч, але каўбаса з ім яшчэ лепшая, праўда?

Старэйшыя не заўсёды адносяцца да дзяцей з належнай ім сур'ёзнасцю. Не заўсёды трактуем іх як роўных сабе. А дзяцей гэта крыўдзіць, нават гневае.

Чатырохгадовая Эвуня Астаневіч вельмі жвавая і спрытная дзяўчынка. Яна нават есць скачучы або круцячыся, бо ўсядзець на месцы не можа. Калі мы яе наведалі, яна так уцешылася, што не дала нам сказаць і слова.

Калі мама зварыла абед і пачала падаваць на стол, Эвуня бегала за ёй следам, каб памагчы. У гэты момант бацька крыкнуў на яе, каб супакоілася, бо перашкаджае. Эвуня бегатню прытармазіла, але ёй зрабілася вельмі нялоўка ад такой заўвагі пры госцях.

Селі мы есці. А Эвуня, як заўсёды, есці не захацела, адмовілася. Мая жонка паклікала яе да сябе на калені і пачала карміць, прыгаворваючы:

— З'еш лыжачку за маму.

З'ела.

— З'еш лыжачку за Ульку.

З'ела.

— З'еш лыжачку за тату.

— За тату не магу есці, бо з роціка выпадае, — адмовілася Эвуня, і каб не крыўдзіць усіх нас, запытала, як завуцца гэтыя кветкі, якія стаялі на стале.

— Герберы, — адказала бабуля.

— За герберы з'ем. А гэтыя?

— Гваздзікі.

— І за гваздзікі з'ем.

Такім чынам малая Эвуня дала зразумець бацьку, што хоць можа і не гневаецца на яго, але есці сёння за яго здароўе не хоча, бо і ён павінен лічыцца з ёю.

**Васіль Петручук**

## Пазнаёмімся

* ✲ *

БССР, Гродзенская вобл., Бераставіцкі раён, в. Каменка. Ярмолік Святлане і Курганскай Галіне. Дзяўчынкі вучацца ў сёмым класе.

* ✲ *

СССР, 344059, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкалова, ул. Белорусская, 143. Камышовой Марине. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ✲ *

Юрка Стоцкі, вучань сёмага класа, в. Лука, 27, пошта 17-222 Семяноўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Аз. ССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 2б, блок 3, кв. 33. Момедовой Гюльнаре. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.




## ШКОЛА МАЛЯВАННЯ

Навучыся маляваць барана, зрабі свой уласны малюнак і прышлі ў „Зорку". За дзесяць найпрыгажэйшых малюнкаў — кніжкі.

Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.